

магілёўскі
# Выбар

№ 1 (23)
Студзень
2013 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# ЦІ ВАРТА ЧАКАЦЬ АБВАЛУ ЭКАНОМІКІ Ў 2013 ГОДЗЕ?

***Еўрарадыё разам з вядомымі экспертамі паспрабавала стварыць эканамічны прагноз на год Змяі.***




"Я думаю, што ў параўнанні з гэтым годам мала што памяняецца. Хіба, у галіне прыбыткаў… Маўляў, раней яны раслі да 500 долараў, а далей давайце самі", — расказвае Сяргей Чалы.

Эканаміст не чакае нейкіх пертурбацый у надыходзячым годзе. Гаворыць, што яны нікому не патрэбныя. Ваганні асноўных паказчыкаў эксперт прадказвае ў межах 10%. Курс долара на канец восені 2013 Чалы бачыць у межах 9200-9500 рублёў.

Калега Сяргея Чалага, Леанід Злотнікаў, апісвае куды больш апакаліптычныя краявіды. На думку эканаміста, для падтрымкі узроўню дабрабыту, пастаўленага ў 2012 годзе, ураду Беларусі ў 2013 годзе спатрэбіцца ажно 8 мільярдаў долараў. Калі дадаць сюды тры мільярды, якія неабходна выплаціць па крэдытах, то атрымоўваецца надзвычай кругленькая сума. І калі частку можна будзе "наскрэсбці", дзякуючы крэдытам ад ЕўрАзЭС і Кітая, то прыкладна 8 мільярдаў давядзецца браць немаведама адкуль. Злотнікаў гаворыць, што нас можа чакаць адток валюты, а за ім інфляцыя і ўсе іншыя "цуды".

"Ну вось, мы бачым, што ёсць

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

## САБАКА-ПАШТАЛЬЁН

***Заўважыла, што адначасова ў розных газетах з'явіўся невялічкі аповед пра паштальёнку з Клімаўшчыны і яе чатырохногага "памочніка". На першы погляд, надрукавана цікавая замалёўка з жыццёвай рэчаіснасці. А калі задумацца, то цікавага ў гэтай гісторыі няшмат.***

Дык чаму паштальёнка Лідзія Жыгаліна прыцягнула да сябе ўвагу абласных і рэспубліканскіх газет? Ужо некалькі гадоў яна працуе на першым участку паштовага аддзялення Хатовіж Клімавіцкага раёна. Згодна з прафесійнымі абавязкамі разносіць газеты, часопісы і лісты па трох суседніх вёсках — Хадунь, Ганнаўка і Хатовіж. Звычайная, але разам з тым вельмі патрэбная грамадству праца. Але дзяржаўныя журналісты ўпадабалі ў яе прафесіі іншае. Справа ў тым, што Лідзіі Жыгалінай дапамагае сабака па мянушцы Умка. Іх і сфатаграфавалі разам, на здымку паштальёнка і сабака, які трымае ў зубах газеты.

З нейкім дзіўным замілаваннем чытачам паведамляецца, як штодзень у любое надвор'е яны крочаць па сваім звыклым маршруце. Сабака ўжо ведае, якую газету ў які двор трэба аднесці. Так і хочацца сказаць, сапраўдны памочнік Умка! Але наколькі добра, што падпісчыкі атрымліваюць газеты з сабачых зубоў? Пагадзіцеся, неяк гэта негігіенічна. Па-другое, разносіць пошту ў сельскай мясцовасці не самая ўдзячная праца. Як паведамляюць самі журналісты, гэта робіцца штодзень і ў любое надвор'е. А ў нашым выпадку

*(Пачатак. Заканч. на стар. 2)*

# ЦІ ВАРТА ЧАКАЦЬ АБВАЛУ ЭКАНОМІКІ Ў 2013 ГОДЗЕ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

як мінімум дзве праблемныя рэчы — падтрыманне дабрабыту насельніцтва і выплата пазык. І вось гэтыя рэчы моцна ўплываюць на адток валюты з Беларусі”.

Кампенсаваць яго можна будзе дзякуючы продажу дзяржаўнай маёмасці. Леанід Злотнікаў перакананы, што ў 2013 годзе нас чакае новая хваля прыватызацыі. І калі ўсё будзе добра, то курс долара на канец года складзе прыкладна 9500 рублёў. Калі ж не, то ўжо вясной можна чакаць і 14-ці тысяч за долар.

А вось фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі “Альпары” ў Мінску Вадзім Іосуб прадказвае, што мы ўжо ў хуткім часе можам зразумець, чаго чакаць ад 2013-га. Эксперт бачыць дзве плыні ва ўладных структурах — Нацбанк, які адстойвае больш жорсткі накірунак, і урад, які зацікаўлены ў выкананні праграмных пастановаў.

“Вось цяпер асноўная інтрыга заключаецца ў тым, ці будуць прынятыя нейкія персанальныя рашэнні. Бо ў 2012 годзе план па росту ВУП у памеры 5,5% не быў выкананы”.

Таму калі ўрад у бліжэйшы час панясе асабістыя страты, то можна меркаваць пра выбраны накірунак. Калі ж невыкананне планаў па росце ВУП ураду даруюць, гэта будзе сведчыць аб асноўнай ролі Нацбанка. А значыць — 2013 год пройдзе без вялікіх сенсацый.

Прагноз Іосуба на курс долара не адрозніваецца ад меркаванняў калег па цэху — тыя ж 9500 на канец года. Калі ж Беларусь абярэ новага прэм’ера і возьме накірунак на дасягненне 8%-га росту ВУП на 2013 год — “цуды” нас могуць чакаць ужо вясной.

Кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова запэўнівае, што гэтага не будзе. Падчас прамой лініі 26 снежня яна заявіла, што “землятрусаў” у беларускай эканоміцы ў 2013 годзе не чакаецца. Як і моцных ваганняў курса долара.

Эксперты:
Прагноз курса долара на канец 2013 года -
Сяргей Чалы
9200-9500
Леанід Злотнікаў
9500-14000
Вадзім Іосуб
9500
Надзея Ермакова
9500

***Алесь Пілецкі***

# САБАКА-ПАШТАЛЬЁН

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

паштальёнка Жыгаліна вымушана праходзіць каля дзясятка кіламетраў ад адной да другой вёсцы. Ды яшчэ дапамагае асобным старым вяскоўцам, прыносіць ім хлеб і лекі.

Пасля асэнсавання ўсіх нешматлікіх фактаў, разумееш, што сапраўды цікавага і тым больш забаўляльнага ў апісанай сітуацыі няма. Пагадзіцца хадзіць дзясяткі кіламетраў у дождж і снег можна толькі не ад лепшага жыцця. Гэта пацвярджае і наступны прыклад. Якраз у снежні бялыніцкая раённая газета “Зара над Друццю” змясціла размову з паштальёнам вёскі Вугольшчына Аленай Мысавай. Жанчына распавяла пра тое, які заробак яна атрымлівае: “Мне, натуральна, вельмі хацелася б выпісваць шмат газет і часопісаў. Але зрабіць гэтага не магу з-за матэрыяльных цяжкасцей — не паверыце, але мая месячная зарплата не дасягае і 300 тысяч беларускіх рублёў”.

У звязку з гэтым незалежны бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч расказаў, што пра заробак у памеры мільён рублёў многія вясковыя паштальёны сёння могуць толькі марыць: “Я добра ведаю гэту сістэму, бо ў свой час давялось папрацаваць і паштальёнам, — кажа спадар Вырвіч. — Падтрымліваю кантакты з былымі калегамі па працы і магу запэўніць, што пра заробак у памеры 1 мільён рублёў многія з іх могуць толькі марыць. Людзі атрымліваюць за сваю нялёгкую працу літаральна капейкі. Адміністрацыя вузлоў паштовай сувязі даўно прыдумала, як не плаціць нават мінімальнага заробку. Яны пастаянна зніжаюць працягласць працоўнага часу для сваіх супрацоўнікаў, за які аплочваюць грошы, пры тым, што аб’ём працы не памяншаецца, а, наадварот, часцяком і павялічваецца. Вось і атрымліваецца, што паштальёны афармляюцца на 0,3-0,5 тарыфнай стаўкі і атрымліваюць некалькі соцен тысяч рублёў, на якія яны павінны яшчэ і выпісаць дзяр-




жаўныя газеты. Людзі пастаянна скардзяцца, але на іх звароты ніхто не рэагуе. Сапраўдныя заробкі ў многіх сельгаспрадпрыемствах Бялыніцкага раёна не нашмат адрозніваюцца ад заробкаў паштальёнаў, іншай жа працы няма, вось і вымушаны гэтыя жанчыны працаваць за капейкі. Як яны выжываюць на гэтыя грошы ў нашай “квітнеючай” Беларусі з шалёнымі коштамі літаральна на ўсё, мне цяжка нават уявіць”.

***Алёна ПАЛЯКОВА***

# ПРАЦУЕМ З-ПАД ПАЛКІ

***Якое незалежнае выданне ні паглядзі, усюды крык душы людзкой. Дык чаму на старонках свабоднай прэсы часцей за ўсё друкуюцца артыкулы, нататкі і іншыя публікацыі з крытыкай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Прычын, безумоўна, шмат. Але, на мой погляд, яшчэ і таму, што праца гэтых арганізацыяў заўжды навідавоку. Ад іх недаробкаў залежыць наш быт, камфорт, і, ўрэшце рэшт, наш настрой, І калі б кіраўніцтва гэтых прадпрыемсваў было крыху развароглівей ды імкнулася хібаў, "кляксаў" у сваёй працы рабіць як мага менш, то, зразумела, нараканняў з боку грамадзянаў было б гэтаксама менш.***

Зіма, хоць і са зпазненнем, але рашуча ўступіла ў свае законныя правы. "Гайкі закручвае" як трэба. Тры восеньскія месяцы былі даволі цёплыя і за гэты час жыллёва-камунальнай гаспадарцы можна было падрыхтаваць жыллёвы сектар да зімовага перыяду. Сама прырода як бы дала магчымасць нядбайным работнікам "падчысціць хвасты". Але час ня быў выкарыстаны ў высакародных мэтах. Адгэтуль і няўтульнасць у нашых кватэрах. Толькі вуліцы (цэнтральныя) шкрабем, грабем ды падмятаем… па загаду зверху. Чысціня – гэта добра. Супраць яе ніхто не "рыпаецца". Але ж, падкрэсліваю, **па загаду (!).** Выходзіць, што кіраўнік раёну недзе ўлетку ці ў іншы, зручны для яго час, кожны год павінен аглядаць усю жыллёвую гаспадарку, прайціся па пад'здах шматкватэрных дамоў, паглядзець, у якім стане знаходзяцца дзверы, ці зачыняюцца яны, і загадаць начальніку ЖКГ адрамантаваць аб'екты. Падобна на тое, што без загаду з самага верху ў нас ужо працаваць ня могуць. Бо яшчэ з савецкіх часоў з людзей выбілі ўсялякую ініцыятыву. Выбілі да такой ступені, што іншы мужык без загаду жонкі нават на сваім агародзе плот ня можа паправіць. Дзе тут казаць пра службовыя абавязкі.




Але бліжэй да справы. Стукнулі маразы, падулі халодныя ветры, і ў кватэрах, асабліва на першым паверсе стала няўтульна. Ды адкуль яно будзе ўтульна, калі ўнутраныя дзверы ў пад'ездах стаяць наросхрыст (нараспашку). Шпінгалетаў на іх няма. Спружыны адсутнічаюць. Гэтую ролю "загадалі" выконваць гуме. А прымацавалі яе (гуму) каля трох дзясяткаў год таму. І загад яна ўжо ня здольная выконваць. Ёй лягчэй было адарваць свой прымацаваны канец ад луткі ды боўтацца ў паветры. На дзвярах з аднаго (ўнутранага) боку ручка самаробная. Прымацаваная напалову ўвагнаным у дрэва цвіком. Боўтаецца туды-сюды. З другога боку – і ўвогуле няма за што ўчапіцца. І цягнецца гэтае кіно… лепш не казаць… Узнікае пытанейка: колькі ж сэканомілі грошыкаў толькі на адных спружынах, шпінгалетах ды дзвярных ручках? І куды яны пайшлі?

Сёння адмыслова прайшоўся па пад'ездах дамоў і ўсюды аднолькавы "нацюрморт". Праўда, у некторых пад'ездах адна палова дзвярэй зачынена, але другая – ўсё роўна"нараспашку". З нязменным прымацаванным да яе ў мінулым яшчэ стагодздзі атрыбутам – гумай. Затое пафарбаванай у "прыгожы"(!) сіні колер. Каб эмацыянальна надаць яшчэ больш холаду.

Недзе год ці два праблема "адчыненых дзвярэй" з вісячай гумай паднімалася на старонках незалежнай прэсы. Быў здымак гэтых самых дзвярэй з гэтай жа самай гумай, якія і зараз яшчэ боўтаюцца. Але кіраўніцтва ЖКГ праігнаравала крытыку ў свой бок. І не звярнула ўвагі на такую "дробязь". Ды і навошта звяртаць тую увагу, калі яно (кіраўніцтва) ведае, што старшыня райвыканкама пад'езды глядзець ня пойдзе. Значыць, "нахлабучкі" ня будзе. А народ баяцца няма чаго. Ды і народу, сапраўды, у большай масе гэта не "баліць". На верхніх паверхах, безумоўна, утульней. З падвалу ім холад ня цягне. Ды ад расчыненых дзвярэй крыху далей. А хто жыве на першым паверсе – церпяць ды маўчаць. Па розных прычынах. То ня ведаюць, куды ўжо і скардзіцца. Некаторыя баяцца турбаваць "высокое начальство" А іншым – усё да лямпачкі.

Таму прашу в/а дырэктара Чэрыкаўскага ЖКГ Фёдарава Уладзіміра Міхайлавіча гэтую публікацыю лічыць афіцыйнай скаргай ад імя усіх жыльцоў нашага дому. Калі з Вашага боку ня будзе прынята адпаведных захадаў для навядзення парадку ў пад'зедах, мы вымушаны будзем напісаць скаргу, а значыць, і "падкинуть работёнки", непасрэдна старшіні Чэрыкаўскага райвыканкаму Кадаценку Мікалаю Міхайлавічу.

***Сямён Панізоўцаў***

# МАГІЛЁЎСКІ БНФ НЕ МОЖА ЗНАЙСЦІ МЭБЛЮ СА СВАЙГО БЫЛОГА ОФІСУ




У снежні гэтага году сябры Магілёўскіх абласных арганізацый Партыі і Руху БНФ “Адраджэнне” нарэшце здолелі знайсці памяшканне для свайго офіса ў горадзе Магілёве. Зараз офіс фронтаўскіх арганізацый у Магілёве будзе размяшчацца па адрасе вуліца Ленінская , д. 29а. Аднак нечакана ў магілёўскіх сяброў Фронта ўзнікла новая праблема: яны не могуць дабіцца адказу ад супрацоўнікаў ЖЭУ № 5, дзе зараз знаходзіцца мэбля з іх былога офіса, які раней размяшчаўся па адрасе вул. Цыялкоўскага, дом 10, адкуль ГА БНФ “Адраджэнне” было выселена згодна рашэння гаспадарчага суда Магілёўскай вобласці напрыканцы 2009 года быццам бы з-за затрымак з унясеннем арэнднай платы. У выніку магілёўскія фронтаўцы тады засталіся без юрыдычнага адраса.

“Мы доўга не маглі знайсці памяшканне для свайго офіса, - распавядае старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Руху БНФ “Адраджэнне” Зміцер Салаўёў. – Некалькі разоў бывалі выпадкі, калі мы ўжо быццам бы вусна дамаўляліся з гаспадарамі памяшканняў аб заключэнні дамовы аб арэндзе, аднак увесь час гэтыя дамовы чамусьці не рэалізоўваліся, гаспадары звычайна казалі “Ну, вы самі ўсё выдатна разумееце”. Але ўсё ж мы здолелі знайсці памяшканне для офіса па адрасе вуліца Ленінская, д. 29а, і ён ужо аднавіў сваю працу”.

Зміцер Салаўёў кажа, што пасля аднаўлення працы офіса Руху БНФ “Адраджэнне” ў Магілёве нечакана ўзніклі новыя складанасці.

“Працу офіса ў горадзе мы аднавілі, аднак нечакана ўзніклі новыя цяжкасці. Мы пакуль не можам атрымаць адказу ад кіраўніцтва магілёўскага ЖЭУ № 5, дзе ж знаходзіцца мэбля з памяшкання нашага былога офіса, які размяшчаўся па адрасе вул. Цыялкоўскага, 10. Нагадаю, што адтуль мы былі выселены восенню 2009 года згодна рашэнню гаспадарчага суда Магілёўскай вобласці быццам бы за несваечасовую выплату арэнднай платы. Мы прайшлі ўсе касацыйныя інстанцыі, апошняе абскарджанне разглядалася 17 ліпеня 2010 года, аднак праўды не змаглі дабіцца і засталіся без юрыдычнага адраса. Пасля нашага гвалтоўнага высялення ўся мэбля з гэтага памяшкання – стулы, стол, сейф, добрыя шафы – засталіся на захоўванні ў ЖЭУ № 5. Зараз мэбля спатрэбілася для абсталявання новага офіса, але пакуль мы не можам дамагчыся адказу, дзе ж яна канкрэтна знаходзіцца, бо за гэты час змянілася кіраўніцтва ЖЭУ № 5, многія майстры, і ў арганізацыі проста не ведаюць, дзе падзелась наша мэбля. Адміністрацыя ЖЭУ № 5 абяцае разабрацца ў гэтым пытанні і вярнуць нашы рэчы. Калі гэтага не адбудзецца, мы будзем кансультавацца з юрыстамі і складаць адпаведны зварот у суд”.

Ужо ў памяшканні новага офіса па адрасе вул. Ленінская, д. 29а 15 снежня адбылася Магілёўская абласная канферэцыя Партыі і Руху БНФ “Адраджэнне”. Была абраная Рада абласных арганізацый Партыі і Руху БНФ “Адраджэнне ў складзе шасці чалавек. Кіраўніком абласной арганізацыі на новы тэрмін пераабраны Зміцер Салаўёў, яго намеснікам стаў Віталь Макаранка.

*Іван Барысаў*

## Лукашэнка: па маіх дадзеных, многія людзі незадаволеныя мясцовымі ўладамі

Кіраўнік дзяржавы ў напярэдадні Новага года прыняў шэраг кадравых рашэнняў і паставіў задачы кіраўнікам мясцовых органаў улады.

Лукашэнка падкрэсліў, што 2013 год будзе для чыноўнікаў перыядам напружанай працы. Ён крытычна ацаніў працу мясцовых органаў улады.

“Па маіх дадзеных, шмат людзей вельмі незадаволеныя працай мясцовых органаў улады, менавіта мясцовых, і мне многія гавораць пра гэта, што “вы мала з іх пытаецеся, яны вось князькамі дробнымі сталі”. Гэта аб узроўні старшыняў райвыканкамаў ішла гаворка. Трэба на гэта звярнуць увагу і больш сур’ёзна, дынамічна працаваць”, — цытуе словы Аляксандра Лукашэнкі БЕЛТА.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што людзі “павінны адчуваць, што ўлада ў краіне ёсць”.

# ГАЛОЎНАГА ЛЕКАРА КАСЬЦЮКОВІЦКАГА РАЁННАГА ШПІТАЛЮ ЛЕАНІДА ШЫЛЬКО ВІНАВАЦЯЦЬ У РАСКРАДАНЬНІ ДЗЯРЖАЎНЫХ СРОДКАЎ




Сваякі мяркуюць, што абвінавачаньне сфабрыкаванае: яны ня могуць зразумець, чаму крымінальную справу «фінансавага» зьместу ініцыяваў Камітэт дзяржбясьпекі. І дужа хвалююцца за здароўе і жыцьцё арыштаванага — падчас адной з праверак КДБ у Леаніда Шылько здарыўся інсульт, але па загадзе сьледчых яго забралі ў турму проста са шпітальнай палаты..

І Ленід Шылько, і яго жонка Ала Георгіеўна дзясяткі год працуюць у мэдыцыне. На Магілёўшчыну спадар Шылько пераехаў зь Віцебску. Яго не задавальняў стыль кіраваньня тагачаснага кіраўніка абласной управы аховы здароўя. І хоць той чыноўнік ужо пакінуў сваю пасаду, вяртацца Леанід Шылько не зьбіраўся. Бо асабіста падбіраў калектыў лекараў, якія рабілі складаныя апэрацыі, дамогся таго, каб на базе Касьцюковіцкага шпіталю адчынілі аддзяленьне гемадыялізу.

Адным словам, ён «падняў» гэты шпіталь на досыць высокі ўзровень, кажа жонка арыштаванага галоўурача Ала Шылько:

«Кадравая сытуацыя была проста нулявая! Там не было каму працаваць, не было абсталяваньня. А галоўнае — не было, каму працаваць, не было ўрачоў. І ён зьбіраў гэтых урачоў, запрашаў і з Горадні, і зь Менску, і зь Віцебску. І сабраў адмыслоўцаў, якія рабілі высокатэхналягічныя апэрацыі!»

Паколькі сам Леанід Шылько быў прыежджы, яму далі службовую кватэру. З «казённай» мэбляй, пазначанай інвэнтарнымі нумарамі. З гэтай мэблі і пачаўся асабісты перасьлед. 12 лістапада супрацоўнікі КДБ зьявіліся да Леаніда Шалько зь ператрусам — маўляў, мэбля скрадзеная. Мэблю апісалі і канфіскавалі, хаця ўсе нумары супалі з вопісам перададзенай маёмасьці, а потым апячаталі і саму кватэру, бо спадар Шылько трапіў у шпіталь зь інсультам.

Тым часам распачаліся праверкі ў самім шпіталі. Калегі Леаніда Шылько толькі дзівіліся: чаму фінансавую дзейнасьць установы правярае не Дзяржкантроль і не аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі, а КДБ. Калі ўрэшце Шылько зьвінавацілі ў тым, што шпіталь купляў дэталі для аўтамашын, якіх не было на балянсе ўстановы, родныя канчаткова вырашылі, што тут «справа нячыстая». Жонка арыштаванага называе ўсё гэта «замовай»:

«Мы ніколі ня бралі ўдзел у нейкіх маўклівых акцыях, не ўступалі ў апазыцыю. Мы з мужам шмат гадоў проста працавалі ў мэдыцыне, дзеля дабра людзей. І я ня ведаю, чаму КДБ так вырашыла з намі расправіцца.. Чаму КДБ займаецца такімі справамі — запчасткамі, зьвяркай інвэнтарных нумароў... Мы спачатку думалі: можа, нейкая ананімка... Але гэта нейкая замова. Можа, кагосьці трэба было „ўзяць“ па пляне? А ня возьмеш жа шарагоўца, механіка, электрыка. Трэба кіраўніка! Я думаю, гэта была замова!»

Ала Георгіеўна кажа, што і папярэднік яе мужа на гэтай пасадзе быў звольнены па ініцыятыве КДБ. Яна не выключае, што муж мог па няўважлівасьці падпісаць нейкі дакумэнт, але ў яго не было зламысных намераў:

«Навошта ж яму „Фіяты“, „Форды“, „Опэлі“… У нас такіх машын не было ніколі! Так, можа ён нешта ня так падпісаў, але ж сабе ён нічога ня браў! І там жа пры закупцы падпісвае дакумэнты шмат людзей, цэлыя камісіі, там жа не адзін ён — дзясяткі подпісаў!»

14 сьнежня напалову паралізаванага Леаніда Шылько, толькі што выпісанага з рэанімацыі, адвезьлі ў Маглёўскі СІЗА. Ала Шылько гаворыць, што муж можа ня вытрымаць тамтэйшых умоваў утрыманьня. Ён перанёс інфаркт, цяпер інсульт, у яго цукровы дыябэт. А галоўнае — ён не зьбіраецца пазьбягаць адказнасьці, калі яго віна будзе даказана Сьледчым камітэтам.

Стаўленьне да мужа, які шмат гадоў ратаваў жыцьці іншых людзей, Ала Шылько лічыць бесчалавечным. Пра гэта яна напісала ў лісьце да Аляксандра Лукашэнкі, але адказу не атрымала.

Чаму запчасткамі для райбальніцы займаецца КДБ?

Гісторыя з арыштам былога галоўнага лекара Касьцюковіцкай раённай бальніцы Леаніда Шылько нібыта за набыцьцё запчастак для машын, якіх няма ў аўтапарку бальніцы, атрымала рэзананс. Пажылы хворы

*(Пачатак. Заканч. на стар. 7)*

# В БЫХОВЕ БУФЕТ ЗАМЕНЯТ НА ТУАЛЕТ

Проблему общественного туалета, который стал одним из символов страны победившего социализма, в советские времена решить так и не удалось. Так уж сложилось исторически: нам почему-то было проще учить жизни другие страны и народы, чем навести порядок в собственном сортире.

Вопрос остался открытым и по сей день. Если построить туалет еще с грехом пополам удается, то следить за его санитарным состоянием желающих не находится. Особенно остро проблема стоит в провинции.

В бытность корреспондентом быховской районной газеты мне довелось столкнуться с парадоксом: попытки установить ведомственную принадлежность разбросанных по городу дощатых будок закончились неудачей. Чиновники и начальники всех уровней упорно не желали нести ответственность за бардак в общественных туалетах.

Все течет, все меняется. Недавно быховские власти в очередной раз взялись за кардинальное решение проблемы. Компанией по демонтажу сортиров-времянок не ограничились. Вскоре в городе, где и улицы-то не все заасфальтированы, откроется первый платный туалет. Разместить его решили не где-нибудь, а на железнодорожном вокзале – вместо буфета.

Мотивы – самые благие. Мол, вокзал – лицо города, место, которое первым увидят гости Быхова, прибывшие со всех уголков страны на празднование Дня белорусской письменности.

На первый взгляд начинание не лишено логики и здравого смысла. Однако без вопросов не обойтись.

Во-первых, быховский железнодорожный вокзал, на сегодня, пожалуй, единственное место в городе, которое выглядит более-менее прилично. Белорусская железная дорога – серьезное предприятие, у которого «гражданским» властям следует поучиться умению поддерживать вверенные объекты на должном уровне. Яркий пример тому – тот же бесплатный вокзальный туалет. Хотя ландышами и розам в туалете не пахнет, но и грязищи, свойственной городским сортирам, там отродясь не бывало.



*Снести все дощатые сортиры в Быхове пока не успели*

Во-вторых, вокзальный буфет в реконструкции не нуждается. Как раз за него краснеть перед приезжими не приходится. Да и местные граждане, влившись в бодрую массу пассажиров, вокзальным буфетом вполне довольны.

Отсюда вопрос: почему для того, чтобы сделать что-то хорошее, надо чем-то хорошим пожертвовать? Почему инициаторы замены буфета на туалет действуют по принципу «ищу не там, где потерял, а где посветлее»?

Платный туалет на железнодорожном вокзале - не самая важная задача для Быхова, который в сентябре станет центром празднования Дня письменности.

Сказать, что в городе конь не валялся – значит не сказать ничего. Даже если удастся в спешном порядке подлатать значимые места города, гости, не приведи Господь, могут свернуть на боковую улочку, увидеть, что творится за парадным фасадом и получить инфаркт.

Чтобы этого казуса не произошло, чиновникам следует спуститься с небес, перестать строить наполеоновские планы в своих уютных кабинетах, а просто прогуляться по улицам, отклонившись от привычного маршрута «базар-вокзал-райисполком». Советоваться о благоустройстве Быхова следует с самими быховчанами. Они могут подсказать много полезного.

В противном же случае благоустройство может завершиться созданием очередной «потемкинской» деревней и рокировками в стиле «буфет-туалет».

***Сергей Антонов***

## З Новым годам. З новымі цэнамі

Да Новага году ўрад падрыхтаваў беларусам чарговы «падарунак»: павялічацца тарыфы на цяпло і гарачую ваду на 5%, на электраэнергію — у сярэднім на 9,5%. Вырастуць тарыфы і на прыродны газ. А пачатак цыгарэт падаражае прыкладна на 2 тысячы. Павышаюць кошты апэратары мабільнай сувязі, інтэрнэт-правайдэры.

# ГАЛОЎНАГА ЛЕКАРА КАСЬЦЮКОВІЦКАГА РАЁННАГА ШПІТАЛЮ ЛЕАНІДА ШЫЛЬКО ВІНАВАЦЯЦЬ У РАСКРАДАНЬНІ ДЗЯРЖАЎНЫХ СРОДКАЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

чалавек пасьля інсульту знаходзіцца ў Магілёўскім СІЗА. Справу завяло УКДБ па Магілёўскай вобласьці. Чаму запчасткамі займаецца КДБ і што кажуць пра былога кіраўніка калегі-мэдыкі.

Калегі Леаніда Шылько ня вераць, што іх былы кіраўнік мог пайсьці на нейкае ня тое што злачынства — проста злоўжываньне. Кажуць, што ён ня толькі добры лекар, арганізатар мэдыцыны, але і выдатны гаспадарнік. Загадчык хірургічнага аддзяленьня Аляксандар Маратавіч кажа:

«Што адбылося, я ня ведаю. Я быў у шоку, калі гэта ўсё пачалося. Я спадзяюся, што разьбяруцца органы, зразумеюць, што памыліліся. Можа, хто „падставіў“ чалавека, гэта ж такая справа. Ведаеце, як магло быць: кіраўнік нешта падпісаў, а нехта за ягонай сьпінай нешта зрабіў».

Спачатку справу на Леаніда Шылько завяло УКДБ па Магілёўскай вобласьці. Цяпер справа перададзеная ў Сьледчы камітэт па Магілёўскай вобласьці. Чаму гісторыяй з запчасткамі займаўся Камітэт дзяржаўнай бясьпекі, а не, да прыкладу, упраўленьне па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю ці сьледчы камітэт?

Прэсавы сакратар Сьледчага камітэту Павал Траулька, што да акалічнасьцяў справаў Шылько, інфармацыяй пакуль не валодае, але паабяцаў усё высьветліць. А што да цікавасьці КДБ да звычайных запчастак, патлумачыў:

«Я бачыў гэты артыкул, безумоўна. Такое можа быць. Заканадаўствам гэта не забаронена. Але гэта не падсьледнасьць КДБ. Расьсьледаваць гэту справу будзем мы, калі яна мае месца. Давайце вернемся да гэтай размовы заўтра».

Калегі-мэдыкі кажуць пра ўжо былога галоўнага лекары Касьцюковіцкай раённай бальніцы Леаніда Шылько толькі добрае. Шылько сам прыехаў у Касьцюковічы зь Віцебску 4 гады, таму і сабраў добры калектыў. Хірург Аляксандар Маратавіч распавёў:

«Я 19 гадоў прапрацаваў у Барысаве. І паразмаўляўшы толькі адну гадзіну з галоўным лекарам Леанідам Іванавічам, перамяніў усё жыцьцё. Так мяне пераканаў, што трэба дапамагчы Магілёўскай вобласьці, што я быў у шоку! Настолькі камунікабельны чалавек, прыязны, добразычлівы! Я да яго стаўлюся зь вялікай павагай. За сваё жыцьцё я працаваў у Бярэзіне, у Барысаве, столькі было галоўных лекараў... Ні адзін кіраўнік так прыязна да мяне не паставіўся, як Леанід Іванавіч тут».

У звычайным правінцыйным гарадку робяць цяпер складаныя апэрацыі, лячыцца ў Касьцюковічы прыяжджаюць з суседняй Расеі, працягвае хірург Аляксандар Маратавіч:

«Чалавек запрасіў сюды адмыслоўцаў, стварыў міжраённае траўматалягічнае аддзяленьне, яго добра абсталявалі. На базе



раённай бальніцы я зараз займаюся складанымі лапараскапічнымі апэрацыямі. За 3 месяцы зрабіў ўжо 15 апэрацый. Гэта на раёне, у такім маленькім горадзе, і людзі перасталі езьдзіць у Магілёў. Зь іншых раённых цэнтраў прыяжджаюць да нас, расейцы тэлефануюць, каб на платнай аснове апэрыравацца. Чалавек стараўся. Стараўся для шпіталя, каб быў высокі ўзровень аказаньня дапамогі».

Летась Касьцюковіцкая райбальніца заняла першае месца ў Магілёўскай вобласьці і трэцяе — у Беларусі. Цяпер тут — шматлікія праверкі, інспэкцыі, рэвізіі.

***Радыё Свабода***

## УБИЙСТВО В БЕЛЫНИЧСКОМ РАЙОНЕ

20 декабря в 8-00 в д. Малый Кудин Белыничского района в своём доме обнаружен труп пенсионера 1936 г.р. Установлено, что 19 декабря около 18-00 по месту жительства, в ссоре, неработающая несудимая местная жительница 1965 г.р. избила его, причинив телесные повреждения. По подозрению в совершении преступления в порядке ст. 108 УПК так же задержан неработающий несудимый односельчанин 1976 г.р. 20 декабря Белыничским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. 139 ч. 2 УК (Убийство), сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома.

# У ХОЦІМСКІМ РАЁНЕ БЫЛЫЯ АСУДЖАНЫЯ НЕ ХОЧУЦЬ УЛАДКОЎВАЦЦА НА ПРАЦУ АЛЬБО ІХ НЕ ХОЧУЦЬ УЛАДКОЎВАЦЬ?

У сярэдзіне снежня адбылася каардынацыйная нарада пры Хоцімскім райвыканкаме па барацьбе са злачыннасцю, на якой было разгледжана пытанне аб стане працы па барацьбе з рэцыдыўнай злачыннасцю ў раёне.

Згодна аптымістычнай высновы начальніка Хоцімскага РАУС Аляксандра Талкачова, па выніках 11 месяцаў 2012 года прынятыя меры дазволілі знізіць на 21, 7 % колькасць злачынстваў, здзейсненых раней судзімымі асобамі. Усяго ў Хоцімскім раёне імі было здзейснена 30 злачынстваў, што на 9 менш, чым у 2011 годзе.

На думку Аляксандра Талкачова, раней судзімыя асобы схільны здзяйсняць паўторныя правапарушэнні і злачынствы. Прычым паўторна – гэта больш жорсткія і прадуманыя злачынствы, як выказаў меркаванне начальніка Хоцімскага РАУС у матэрыяле "Почему ворует… вор?" Хоцімскай раённай газеты "Шлях кастрычніка". Аляксандр Іванавіч лічыць, што абцяжарваецца сітуацыя тым, што раней судзімыя грамадзяне пасля таго, як вяртаюцца з месцаў пазбаўлення волі, не хочуць уладкоўвацца на працу і, не маючы сродкаў для існавання, зноў пачынаюць парушаць закон. Так, з 30 злачынстваў, здзейсненых раней судзімымі ў Хоцімскім раёне, 21 складаюць крадзяжы.

Аляксандр Талкачоў лічыць, што раней судзімым перашкаджае працаваць не адсутнасць вакантных працоўных месцаў, а тое, што ў іх няма матывацыі да працы: то ёсць яны не жадаюць падвышаць сваю кваліфікацыю, а заработную плату хочуць пры гэтым мець высокую. Многія пакутуюць на залежнасць ад алкагольных напояў, вядуць асацыяльны лад жыцця, што не дазваляе былым асуджаным адаптавацца да жыцця на волі.

З высновамі начальніка РАУС пагадзіўся і пракурор Хоцімскага раёна Ігар Савасцееў. Ён канстатаваў, што ў здзяйсненні 30 рэцыдыўных злачынстваў прымала ў дзел 25 чалавек, 20 з якіх (80 %) на той момант нідзе не працавалі і не вучыліся. З 30 злачынстваў 9 (30 %) былі здзейснены ў стане алкагольнага ап'янення.

Між тым, высветлілася, што не толькі самі раней судзімыя асобы ў Хоцімскім раёне не хочуць уладкоўвацца на працу. Як піша "Шлях кастрычніка", на ўсіх людзей, якія павінны вярнуцца з мест зняволення, браніруюцца працоўныя месцы, аднак наймальнікі зусім у не захапленні ад такіх працаўнікоў. Прасцей кажучы, былых асуджаных проста не хочуць браць на працу. Праблему прызнаў нават старшыня Хоцімскага райвыканкама Фёдар Вішнеўскі, які адзначыў, што нельга падзяляць людзей на дрэнных і добрых, не ўсе вяртаючыеся з турмы — закаранелыя злачынцы, важна аказываць гэтым людзям падтрымку і давер.

Грамадскі актывіст з Хоцімска Валерый Каранкевіч, які ўзначальвае мясцовую арганізацыю Партыі БНФ, кажа, што праблемай адаптыцыі раней судзімых людзей у грамадства ў Хоцімскім раёне проста ніхто не займаецца.

"Начальнік РАУС і пракурор Хоцімскага раёна проста хітруюць, калі кажуць, што раней судзімыя грамадзяне не хочуць уладкоўвацца на працу, - выказвае меркаванне Валерый Каранкевіч. – Ды ніхто іх на працу на прадпрыемствах і ў арганізацыях раёна проста не хоча браць. У нас у Хоцімскім раёне вялікая праблема знайсці прыстойную працу для любога чалавека, мора людзей вымушана выязджаць на заробкі ў Расію, што тут казаць пра былых асуджаных.



*Валерый Каранкевіч*

Гэтыя людзі выжываюць, як могуць – маладзейшыя таксама едуць у Расію, ну а больш сталыя выжываюць за кошт збору грыбоў і ягад, другаснай сыравіны, падпрацоўваюць у асабістых гаспадарках грамадзян. Наогул, праблемай адаптацыі ў грамадства раней судзімых грамадзян у Хоцімскім раёне практычна ніхто з уладных структур не займаецца, многія з іх спецыяльна здзяйсняюць злачынствы, каб зноў апынуцца за кратамі і неяк перажыць зіму".

Застаецца нагадаць, што намінальная налічаная сярэднемесячная заработная плата ў студзені-верасні 2012 года ў Хоцімскім раёне склала 2 485, 7 тысяч рублёў. Гэты паказчык з'яўляецца адным з самых нізкіх сярод раёнаў Магілёўскай вобласці.

***Сяргей Семяновіч***

## Павышаны тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі

З 1 студзеня 2013 года. Гэта прадугледжана пастановай беларускага ўраду.

Як паведамляе БелаПАН, тарыфы на цеплавую энергію ўзрастуць на 5%, электрычную — на 9,5%.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў на некаторыя паслугі ЖКГ адбылося 1 жніўня 2012 года.

магілёўскі **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 02.01.2013 г. у 14-00.